# КРЫВІЯ

Выданьне беларускае нацыянальнае меншасьці ў Чэхіі

№33 Лістапад 2014

Культурна-асьветніцкі часопіс


## ЗЬМЕСТ



## УСТУПНАЕ СЛОВА

2014 год адзначаны шматлікімі юбілеямі, зьвязанымі з падзеямі, што значна паўплывалі на хаду беларускай гісторыі, разьвіцьцё беларускай тоеснасьці і фармаваньне сучасных межаў Беларускай дзяржавы. Пералік гэтых падзеяў складаецца зь 500-годзьдзя Аршанскай бітвы, 75-годзьдзя ўзьяднаньня Заходняй Беларусі з БССР, 70-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад нацыстоўскай акупацыі. Кожная з гэтых падзеяў наўпростава ці ўскосна асьвятляецца ў гэтым нумары. У сьвеце сёлетніх падзеяў ва Ўкраіне, у гэтым нумары мы зьвяртаемся да гэтай праблематыкі ў кантэксьце часткі ўнутрыбеларускага дыскурсу, што прыхільная ідэям "русского мира". Акрамя таго, гэты нумар месьціць артыкулы прысьвечаныя ацэнцы ролі Грунвальдзкай бітвы ў кантэксьце беларускай сучаснай гістарыяграфіі і нацыянальнай тоеснасьці, а таксама падзеям Вялікай Паўночнай вайны, якая была чужой для беларусаў. Мы спадзяемся, што гэты "вайсковы" нумар нашага часопісу выкліча зацікаўленасьць і дыскусію сярод нашых чытачоў.

# У ЭЙФАРЫІ “РУССКОГО МИРА”: “ЗАХОДНЕРУСКІЯ” РЭАКЦЫІ НА ПАДЗЕІ ВА УКРАІНЕ

АНДРЭЙ ЦІХАМІРАЎ



З пачатку 2014 года палітычная сітуацыя ў Еўропе кардынальна змянілася. Крывавыя падзеі на Майдане ў Кіеве, змена ўлады ва Украіне, расійскае ваеннае ўмяшальніцтва, анэксія Расіяй украінскага Крыму разбурылі існую дагэтуль архітэктуру міжнародных дачыненняў. Вайна на тэрыторыі Луганскай і Данецкай абласцей Украіны, пры ўсёй яе неадназначнасці, стыль яе вядзення і маштабы паказваюць, што імперскія амбіцыі сталіся адной з асноўных мэтаў цяперашняга расійскага кіраўніцтва і значнай часткі насельніцтва.

Адкрытае вайсковае ўмяшанне і палітычны ціск суправаджаюцца вялізнай інфармацыйна-прапагандысцкай вайной, маштабы якой вельмі нагадваюць прапаганду часоў “халоднай вайны”. Значная частка насельніцтва, якая здатная ўспрымаць інфармацыю толькі на расійскай мове пры наяўнасці разнастайных альтэрнатываў вельмі ахвоча падтрымала асноўныя тэзы расійскага медыя-дыскурсу. Гэтая выснова тычыцца не толькі ўласна Расіі, але таксама значнай часткі насельніцтва Украіны (яна была таксама непасрэдна скіраваная на распальванне штучнага сепаратызму і заклікаў да вайны ў гэтай краіне), краін Балтыі, Казахстана, Малдовы і Беларусі.

Выпадак беларускай медыя-прасторы тут даволі паказальны. Поўнае падпарадкаванне на працягу апошніх 10-15 год асноўных медыя-рэсурсаў дзяржаве (перадусім тэлебачання, радыё і прэсы), выціснанне альтэрнатыўных пунктаў гледжання ў “рэзервацыі” нешматлікіх незалежных газетаў і інтэрнэт-рэсурсаў пры захаванні магчымасці свабоднага распаўсюджання расійскага тэлебачання прывялі да таго, што для значнай часткі насельніцтва Беларусі менавіта расійскія каналы сталіся своеасаблівым “вакном на свет”. Большая прафесійнасць расійскіх тэлеканалаў і навязлівая русіфікацыйная палітыка ўнутры Беларусі спрычыніліся да таго, што гэтыя медыя-рэсурсы карысталіся значным узроўнем даверу. Дадатковым момантам было і тое, што ў перыяд розных канфліктаў паміж кіраўніцтвам Беларусі і Расіі расійскія тэлеканалы дазвалялі сабе дастаткова вострую крытыку беларускага палітычнага рэжыму і такім чынам успрымаліся ў якасці “незалежных”, “аб’ектыўных” ці больш адкрытых. Ва ўмовах інфармацыйнай вайны і агрэсіі Расіі супраць Украіны расійскія медыі сталіся адным з найэфектыўнейшых спосабаў удзеяння на беларускіх грамадзянаў.

Стаўленне беларускіх дзяржаўных медыяў да падзеяў ва Украіне можна назваць неадназначным. Заўважальна было тое, што яны відавочна чакалі нейкай рэакцыі беларускай улады, што было даволі прадказальным. Адначасна, разам з тым яны выкарыстоўвалі падобную да расійскіх медыяў лексіку і рыторыку, апісваючы як падзеі на Майдане, так і фактычныя ваенныя дзеянні Расіі супраць Украіны.

Пасля дастаткова негатыўнай пазіцыі беларускага кіраўніцтва па праблеме анэксіі Крыма, пазіцыя беларускіх дзяржаўных тэлеканалаў і газетаў стала значна больш вытрыманай. Паказальна было і тое, што яны ўжо спрабавалі наблізіцца да пэўнай рознабаковасці пры асвятленні падзеяў ва Украіне.

Незалежныя беларускія медыя-рэсурсы ў сваёй большасці падтрымалі украінскі бок і стараюцца адкрыта асвятляць падзеі, у тым ліку робячы акцэнт на салідарнасць беларускага грамадства з Украінай і падтрымліваючы супрацію украінскага народа. У пэўным сэнсе, беларуская медыя-прастора таксама сталася “полем бітвы” паміж выразна прарасійскім і праўкраінскім пунктамі гледжання.

Апрача згаданых вышэй медыя-рэсурсаў варта звярнуць увагу на дыскурс, распаўсюджаны сярод прадстаўнікоў так званага “неазаходнерусізму”. Прадказальнасць негатыўнай рэакцыі прадстаўнікоў гэтага асяродка на падзеі Еўрамайдану 2013-2014 была вельмі зразумелай. Выкарыстоўваючы “навуковы стыль” аўтары рэсурсу zapadrus.su дастаткова хутка пачалі памнажаць адпаведны дыскурс, сэнс якога зводзіўся да доказу тэзы пра “генетычную повязь” пратэстоўцаў з “Захадам”, у той час як сама ўкраінская дзяржаўнасць паказвалася як слабая і штучная[1]. Пры гэтым, Расія прэзентавалася як прыклад “моцнай дзяржавы” і нават “дэмакратыі, што адбылася”. Падобным чынам сітуацыю вакол Еўрамайдану апісвалі таксама афіцыйныя беларускія медыі, для якіх любыя масавыя пратэсты – гэта публічны выклік уладзе і паказальнік “нестабільнасці”.

Выразная эйфарыя з боку сучасных прыхільнікаў “заходнерусізму” пачалася падчас уваходу расійскіх войскаў на тэрыторыю Крымскай паўвыспы, “рэферэндуму” 16 сакавіка 2014 году і анэксіі Крыму Расіяй. Падзеі 18 сакавіка 2014 году (т.б. абвяшчэнне пра анэксію Крыму) былі пракаментаваныя наступным чынам: “Расія стала на шлях аб’яднання Расійскага свету. Гэта мы павінны запомніць. Гэта павінны памятаць нашчадкі”[2]. Частка аўтараў сайту zapadrus.su была нават запрошаная на адмысловае ток-шоў на адным з дзяржаўных тэлеканалаў Беларусі – АНТ, дзе агучвала думку пра “дабраахвотны” характар “рэферэндуму” на Крыме, “гістарычныя правы” Расіі і адсутнасць “легітымнай улады” ва Украіне[3].

Далейшыя развагі наконт гэтай падзеі зводзіліся да падтрымкі т.зв. “русской весны”, г.зн. да распальвання хвалі сепаратысцкіх настрояў ва ўсходніх і паўднёвых абласцях Украіны[4]. Такая падтрымка ўзброенага супрацьстаяння станавілася для гэтых аўтараў доказам факту “адраджэння” Расіі, “Расійскага свету” і “еднасці” беларусаў і украінцаў з гэтым палітычным канцэптам.

Паралельна з гэтым на сайце можна сустрэць рознага кшталту “аналітычныя матэрыялы”, якія на дастаткова дылетанцкім і непісьменным узроўні спрабуюць давесці тэзу пра няўхільнасць аб’яднання “Расійскага свету” з Расіяй, адсутнасць этнічных і культурных адрозненняў паміж трыма ўсходнеславянскімі народамі, якія традыцыйна суправаджаюцца антызаходняй рыторыкай. Характэрным прыкладам тут могуць быць тэксты Усевалада Шымава, якія з’яўляюцца наборам розных паліталагічных і філасофскіх тэрмінаў (як правіла, запазычаных з сучаснай расійскай паліталагічнай літаратуры) і зводзяцца да таго, што Беларусь і Украіна павінны знаходзіцца ў “каардынатах расійскай цывілізацыі”[5]. Акрамя таго, тэза пра несамастойны характар беларускай мовы вельмі выразна прасочваецца ў іншым артыкуле гэтага аўтара[6]. Усевалад Шымаў – асоба, якая атрымала адукацыю і навуковую ступень ужо ў незалежнай Беларусі, адкрыта піша пра “штучнасць” і “гвалтоўнасць” працэсу беларусізацыі, лічыць беларускую мову толькі дыялектам расійскай і пры гэтым паказвае абсалютную неабазнанасць у пытаннях філалогіі. Вельмі важна падкрэсліць і тое, што для У. Шымава “Заходняя Русь” ёсць нейкай існай рэчаіснасцю. Для яго гэта не проста нейкая гістарычная назва, але рэальная тэрыторыя.

Украінскія падзеі 2013-2014 гг. выклікалі выразную актывізацыю прарасійскі налаштаваных беларускіх гуманітарыяў, якія адкрыта выказалі сваю падтрымку анэксіі Крыму Расіяй і вядзенню вайны супраць Украіны. Далейшае свабоднае распаўсюджанне такога тыпу ідэяў можа прывесці да таго, што яны будуць выкарыстаныя для абгрунтавання іншых формаў агрэсіі супраць суседніх з Расіяй краінаў. Таму, існаванне Беларусі ў “расійскамоўным” інфармацыйным полі толькі ўзмацняе распаўсюджанасць сучаснай версіі “заходнерусізму”.

Гэты артыкул з'явіўся па-ангельску ў Belarusian Review, Vol. 26, No. 3.

Спасылкі:


[1] Авторы сайта «Западная Русь» о «евромайдане» (10.12.2013).

[2] 18 марта 2014 года. Хроника эпохального события (18.03.2014). (апошняе наведванне 24.08.2014)

[3] Белорусское экспертное сообщество о референдуме в Крыму (19.03.2014).

[4] А. Филатов, Крымский референдум как аспект геополитики в цивилизационном измерении (20.03.2014).

[5] В. Шимов, Ритмы Русской цивилизации (12.07.2014).

[6] В. Шимов, Истоки языкового сепаратизма в Белоруссии (05.11.2013).

# ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ: НІХТО НЕ МОГ ПЕРАШКОДЗІЦЬ СТАЛІНУ ВЫРАШАЦЬ ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ Ў НАШАЙ ЧАСТЦЫ ЕЎРОПЫ

*У 2015 споўніцца 70 гадоў з таго моманту, калі на падставе савецка-польскай дамовы аб межах Беласточчына была перададзеная з складу Беларускай ССР у склад камуністычнай Польшчы. Такім чынам была ўсталяваная цяперашняя беларуска-польская мяжа, якая ўпершыню падзяліла суцэльны этнакультурны рэгіён на беларускую савецкую і польскую дзве часткі. Як усталяванне такой мяжы адбілася на стасунках паміж беларусамі і палякамі на Беласточчыне, што яно азначала для беларусаў Беласточчыны і палякаў Гарадзеншчыны, і якой магла б быць сённяшняя Беларусь, калі б Беласточчына засталася ў яе складзе? З гэтымі пытаннямі часопіс Belarusian Review звярнуўся да прафэсара Яўгена Міртановіча.*



Яўген Міртановіч: "Сучасная беларуска-польская мяжа ёсць вынікам складаных палітычных працэсаў, якія адбываліся ў 1943-1944 гг. У 1943 г. савецкае кіраўніцтва атрымала адабрэнне з боку амерыканскіх і брытанскіх саюзнікаў на мяжу з Польшчай паводле канцэпцыі лорда Керзона, прапанаванай яшчэ ў 1920 г. Тая мяжа была падобная да варыянту, які быў вызначаны савецкім бокам ў 1944 г. Аднак, усё паказвае, што да часу вызвалення Беласточчыны ў ліпені 1944 г. гэту правінцыю планавалася ўключыць у склад БССР. Да канца перыяду акупацыі тут не ствараліся польскія падпольныя камуністычныя структуры палітычнай улады, затое былі савецкія. Ніхто ў той час не быў у змозе перашкодзіць Сталіну вырашаць тэрытарыяльныя праблемы ў гэтай частцы Еўропы. Беласточчыну Сталін аддаў польскім камуністам, каб узмацніць іх пазіцыю сярод палякаў.

Такі тэрытарыяльны падзел можа і падзяліў адну этнакультурную цэласць, але гэтая ацэнка стала відавочнай толькі з перспектывы дзесяткаў гадоў. Не думаю, што пасля вайны беларусы з-пад Беластока адчувалі нейкую супольнасць лёсаў з беларусамі Гродзеншчыны. Інакш было з тутэйшымі палякамі, якія да вайны мелі сваю дзяржаву з мяжой непадалёк Мінска. Беластоцкае ваяводства з цэнтральнага сталася перыферыйным. Таму польскі апазіцыйны антыкамуністычны рух быў тут таксама антысавецкім і антыбеларускім. БССР стала спадкаемцай палітычных пераўтварэнняў на гэтай тэрыторыі. Аўтараў усіх зменаў – сталінскага кіраўніцтва – тут не было, але былі беларусы і палякі. Адмоўныя эмоцыі палякаў кіраваліся ў бок беларусаў. Беларусы адплачвалі гэтым самым. На шчасце, на беларуска-польскім памежжы не адбылося таго, што мела месца на ўкраінска-польскім памежжы.

Калі б Беласточчына засталася ў межах Беларусі, то сітуацыя тут была б, пэўна, вельмі падобная да сённяшняй Гродзеншчыны. Замест польскай мовы тут гучала б руская, адбываліся б фестывалі культуры польскай меншасці, а прэзідэнт Лукашэнка атрымліваў бы падчас кожных выбараў па 80 адсоткаў адданых галасоў."

Гэты артыкул з'явіўся па-ангельску ў Belarusian Review, Vol. 26, No. 4.

# ЗАХАР ШЫБЕКА: СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ ЯЕ ГРАМАДЗЯНЕ ПАКУЛЬ ШТО НЕ МАЮЦЬ

*У 2014 годзе адзначалася 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Наступствы Другой сусветнай вайны для Беларусі мелі вялізнае значэнне ў дзяржаўнай палітыцы ў Беларусі яшчэ ў савецкія часы, аднак, пачынаючы з 1996 г. Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пачаў адзначацца як галоўнае дзяржаўнае свята – Дзень незалежнасці (дзень рэспублікі). Наколькі важнае значэнне ў палітыцы дзяржавы займае Другая Сусветная вайна і чым сучасная інтэрпрэтацыя уладамі да гэтых падзеяў адрозніваецца ад той, што існавала ў Беларускай ССР? Ці існуе ў грамадстве атаясамленне вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў з незалежнасцю і як уплывае святкаванне галоўнага дзяржаўнага свята ў дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў на ўспрыняцце той вайны маладым пакаленнем? З такімі пытаннямі часопіс Belarusian Review звярнуўся да вядомага беларускага гісторыка прафесара Захара Шыбекі.*

Захар Шыбека: "Другая сусветная вайна ў палітыцы кіраўніцтва РБ проста ігнаруецца. Яна засланяецца Вялікай айчыннай вайной, а гэта – розныя рэчы. У якасці сімвала незалежнасці бярэцца савецкі міф аб выключнай ролі Савецкага Саюза, які, нібыта, амаль у адзіночку перамог нацысцкую Германію. Ускосна ўслаўляецца сацыялістычны лад, сацыялістычная ідэалогія, якія, нібыта, забяспечылі перамогу. Ні адна краіна, акрамя СССР, а цяпер Беларусі і Расіі, ніколі не лічыла другую сусветную вайну айчыннай. Існуе разуменне, што перамога над нацызмам – гэта вынік сумесных намаганняў краін антыгітлераўскай кааліцыі, а не нейкай пэўнай дзяржавы.

Акрамя таго, сучаснае кіраўніцтва Беларусі ў якасці сімвала незалежнасці ўзяло яшчэ і створаны былым кіраўніцтвам БССР міф аб выключнай ролі беларускага народа ў выгнанні нацыскіх захопнікаў, аб рэспубліцы-партызанцы. Пры чым, гэты міф набывае фантастычныя памеры, становіцца важнейшым інструментам палітыкі. Факт пераемнасці Беларуссю славы СССР празмерна эксплатуецца, бо арэал пераможцаў выгадна працуе на карысць сучаснага кіраўніцтва. Пераможцаў не судзяць. Пераможцам многае даруецца. Праз грандыёзнае святкаванне вызвалення Беларусі ад нацыстаў, кіраўнікі краіны атрымліваюць бонусы ад Расіі, для якой перамога ў 1945 г. мае сакральны характар.

Незалежнасць Беларусі, як вядома, пачала ажыццяўляцца толькі пасля абвяшчэння 25 жніўня 1991 г. Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Аднак наданне гэтаму дню статусу свята незалежнасці, азначала б ухваленне распаду СССР і прызнанне краху сацыялістычнай дактрыны. Таму выключна па ідэалагічных меркаваннях, грамадству навязваецца зусім абсурдная сувязь вызвалення Беларусі ад нацысцкай акупацыі з днём незалежнасці, днём рэспублікі, а фактычна з днём нараджэння суверэннай Беларусі. Такі кульбіт разлічаны на выключна нізкую гістарычную культуру беларускага грамадства. Аднак народ яшчэ не страціў пачуццё здаровага сэнсу. Ён разглядае, на маю думку, 3 ліпеня, не як свята незалежнасці і нават не як свята вызвалення, а як свята, прысвечанае перамозе над нацызмам.

Штогадовыя аднастайныя і празмерна палітызаваныя сцэнары святкавання у дзень 3 ліпеня проста надакучылі. Замест удумлівага вывучэння і асэнсавання падзей Другой сусветнай вайны адбываецца надакучлівае паўтарэнне ідэалагічных штампаў. Дасведчаная моладзь усё больш выразна дэманструе нігілістычныя адносіны да геразацыі і схематызацыі падзей мінулай вайны. Хоць гэтыя падзеі, сапраўды, лёсавызначальная ў гісторыі Беларусі. Толькі пасля вызвалення ад нацыстаў беларускі народ стаў адзіным, яго краіна набыла міжнародны аўтарытэт, правяла мадэрнізацыю. Таму перамогу над нацызмам ці вызваленне Беларусі ад нацызму беларускім грамадзянам варта святкаваць, але гэту перамогу нельга звязваць з незалежнасцю.

Атрымліваецца так, што свята незалежнасці Беларусі яе грамадзяне пакуль што не маюць. Яны ўстановяць яго, відаць, толькі пасля вызвалення ад камунізму. І гэта можа быць не абавязкова 25 жніўня."

Гэты артыкул з'явіўся па-ангельску ў Belarusian Review, Vol. 25, No. 3.

# ШВЭДЫ НА ТЭРЫТОРЫІ СУЧАСНАЕ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ Ў ЧАС ВЯЛІКАЙ ПАЎНОЧНАЙ ВАЙНЫ

МАКС РАЗЯНКОЎ

Вялікая Паўночная вайна (1700-1721) істотна закранула Беларусь, у т.л. тэрыторыю сучаснае Магілёўскае вобласьці. Шмат напісана пра Бітву пад Лясной, у меншай ступені – пра іншыя падзеі гэтага пэрыяду.




Швэдзкі сьвет XVIII ст.

Аднак, у беларускай гісторыяграфіі гэтыя падзеі падаюцца, найчасьцей (наўмысна, або не), праз прызму расейскага/савецкага на іх погляду. У іншых гісторыкаў падзеі Вялікай Паўночнай вайны на тэрыторыі сучаснае Магілёўшчыны зьяўляюцца толькі часткай дасьледваньняў таго, што адбывалася ў цэлым у ВКЛ, а таму – не дастаткова падрабязнымі. Мэтай гэтага артыкулу зьяўляецца спроба як мага больш аб'ектыўна і падрабязна паказаць падзеі таго часу на Магілёўшчыне.

Для зручнасьці і зацікаўленьня чытачоў, мне падалося лягічным абраць сучасныя адміністрацыйныя межы Магілёўскай вобласьці, а не тагачасных ваяводзтваў. Такім чынам, аўтаматычна вызначыліся і часавыя межы маіх дасьледваньняў: 1708 год.

## РАНЕЙШЫЯ ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

Сярод беларускіх гісторыкаў, дасьледваньні якіх тым ці іншым чынам датычыліся падзеяў Вялікай Паўночнай вайны на тэрыторыі сучаснае Магілёўшчыны, варта назваць Андрэя Котлярчука, які ў сваёй працы *Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў* асьвятляе, у прыватнасьці, час знаходжаньня швэдзкае арміі ў Магілёве і швэдзкую катастрофу пад Лясной, а таксама, напрыклад, магілёўскіх гісторыкаў Аляксандра Агеева, Яраслава Клімуця і Ігара Пушкіна ды Ігара Марзалюка.

З савецкіх/расейскіх гісторыкаў нельга не ўзгадаць Яўгена Тарле і ягоны твор *Северная война и шведское нашествие на Россию (Паўночная вайна і швэдзкае нашэсьце на Расею)* азнаямленьне зь якім зьяўляецца абавязковым для ўсіх гісторыкаў пост-савецкай прасторы, якія вывучаюць пэрыяд Вялікай Паўночнай вайны. Аднак, ня варта забываць, што Тарле быў, у першую чаргу, спэцыялістам па напалеонаўскіх войнах, а не па (Вялікай) Паўночнай вайне і, акрамя таго, быў вымушаны (з аб'ектыўных прычынаў) стварыць занадта палітызаваны твор, нярэдка далёкі ад рэчаіснасьці. З сучасных расейскіх гісторыкаў найбольш падрабязна вывучае абраную намі тэму Ўладзімер Артамонаў: найперш, у *1708-2008. Мать Полтавской победы. Битва при Лесной (1708-2008. Маці Палтаўскае перамогі. Бітва пад Лясной)*, а таксама асобныя главы ў *Полтавское сражение: к 300-летию Полтавской победы (Палтаўская бітва: да 300-годзьдзя Палтаўскае перамогі)*.

Швэдзкія гісторыкі звычайна разглядаюць падзеі Вялікай Паўночнай вайны на тэрыторыі ВКЛ толькі ў кантэксьце агульных падзеяў: у лепшым выпадку, аб'ектам асобнага вывучэньня можа стаць г.зв. *Расейскі паход Карла XII (1707-1709)*. Але праз гучную назву гэтага паходу (а завецца ён так таму, што першапачаткова швэдзкі кароль плянаваў пайсьці на Маскву), у швэдзкіх гісторыкаў нярэдка пераходзіць ад аднаго да іншага адна й тая самая памылка: быццам і падзеі 1707-1708 гадоў адбываліся на тэрыторыі Расеі! Шмат цікавага можна, натуральна ж, знайсьці ў дасьледваньнях такіх гісторыкаў, як Карл Грымбэрг, Карл Галендорф, Альф Обэрг і шэрагу іншых, але вылучыць асобна тэрыторыю сучаснае Магілёўскае вобласьці для сваіх дасьледваньняў ніхто са швэдаў не спрабаваў.

А вось Бітва пад Лясной працягвае прыцягваць увагу гісторыкаў – як швэдзкіх, гэтак і расейскіх, і яскравы таму прыклад выйшаўшая ў 2009 годзе па-швэдзку супольная праца швэдзкага генэрала Эйнара Люта і расейскага гісторыка-аматара Паўла Канавальчука: *Vägen till Poltava. Slaget vid Lesnaja 1708 (Шлях да Палтавы. Бітва пад Лясной 1708)*. У ёй ня толькі падрабязна прааналізавана сама бітва (з выкарыстаньнем дагэтуль невядомых дакумэнтаў, знойдзеных аўтарамі ў швэдзкіх архівах), але разгледжаны таксама і падзеі, якія гэтай бітве папярэднічалі.

У сваім артыкуле я абапіраўся ня толькі на дасьледваньні беларускіх, расейскіх ды швэдзкіх гісторыкаў, але і ў пэўнай ступені на першакрыніцы -- дзёньнікі каралінаў: Леангарда Кага (Leonhard Kagg), Андэрса Пільстрэма (Anders Pihlström), Юакіма Люта (Joachim Lyth), Робэрта Пэтрэ (Robert Petre), Андрэаса Вэстэрмана (Andreas Westerman).

## ЗЯМЛЯ ВЯЛІКІХ БІТВАЎ

У часы Вялікай Паўночнай вайны на тэрыторыі сучаснае Магілёўшчыны адбыліся адразу тры істотныя бітвы: пад Галоўчынам, пад Лясной і пад Маляцічамі (праз расейскую гісторыяграфію больш вядомую як *Сражение при селе Добром*).

Увесну і напачатку лета 1708 армія Карла XII усё далей прасоўвалася на ўсход, прымушаючы расейцаў адступаць (21 чэрвеня (1 ліпеня) швэды ўжо дайшлі да вёскі Прыбар, 23 чэрвеня – да Забалоцьця, а на наступны дзень яны былі ўжо ў Машчаніцы – усё ў сучасным Бялыніцкім раёне) . Зьнішчаючы ўсё на сваім шляху, расейцы здолелі ўмацавацца на Вабічы ля Галоўчыну, разьмесьціўшы свой лягер на яе высокім беразе. Бруствэр, што прыкрываў лягер, быў нашпігаваны гарматамі, а вакол яго быў пракопаны роў. Пераход праз раку ўскладняўся яшчэ й яе балоцістымі берагамі. Паводле швэдзкіх зьвестак, расейскі лягер налічваў 20 тыс. чалавек. Цікава, што швэдзкі фэнрых (прапаршчык) Андэрс Пільстрэм праводзіць мяжу паміж Літвой і Беларусьсю («*Белай Расеяй*») менавіта па рацэ Вабіч.

Але расейскія ўмацаваньні не напужалі швэдзкага караля, і ў ноч з 3 (13) на 4 (14) ліпеня караліны былі ўжо гатовы да пераходу праз Вабіч (каля Высокага). А 2 гадзіне кароль са сваёй гвардыяй, а таксама Далярнскі полк, перайшлі раку ўброд і, ня стаўшы чакаць астатнія палкі, атакавалі левы фланг расейцаў. Празь дзьве (паводле іншых зьвестак – 4 гадзіны) гэты фланг быў ужо заняты швэдамі. Нападаць на правы фланг швэдам не прыйшлося, бо расейцы самі ўжо пачалі ўцякаць у кірунку Дняпра. Страты расейцаў у Бітве пад Галоўчынам склалі, паводле розных ацэнак ад 350 да 4 тыс. толькі забітымі. Непасрэдны ўдзельнік



*Швэдзкі генерал*
*АДАМ ЛЮДВІГ ЛЕВЕНГАЎПТ*
*(1659-1719)*

гэтае бітвы, швэдзкі афіцэр Леангард Каг падае наступныя зьвесткі: 1 028 чалавек забітымі, а таксама « вялікі натоўп палоннымі, 14 гарматаў і вялікую колькасьць амуніцыі». Швэды страцілі ад 238 да 255 чалавек забітымі і 1 219 параненымі. 5 ліпеня швэды пахавалі сваіх загінулых у Высокім (ля Галоўчыну). У гонар сваёй перамогі пад Галоўчынам, Карл XII загадаў адбіць цэлы шэраг памятных мэдалёў. Што да самога мястэчка, то па прыходзе швэдаў яно ўжо было зруйнаванае, і заставалася ў ім усяго некалькі жыхароў.

Пасьля Галоўчыну армія Карла XII правяла амаль месяц у Магілёве, а потым рушыла яшчэ далей на ўсход: дайшоўшы 20 (30) жніўня да Чэрыкава, швэды павярнулі на наступны дзень на поўнач, і дайшлі 28 жніўня да Маляцічаў (цяпер у Крычаўскім раёне), дзе і спыніліся. Але 31 жніўня (10 верасьня) войска расейскага генэрала Міхаіла Галіцына напала на корпус генэрала Карла Густава Рууса (Carl Gustav Roos): швэдзкая армія недалічылася 261 чалавека, у т.л. палкоўніка Нільса Русэншэрны (Nils Rosenstierna). Але тут падасьпеў Карл XII разам зь генэраламі і трыма драгунскімі палкамі, і расейцы вымушаны былі адступіць, загразнуўшы ў балоце. Страты расейскай арміі склалі 375 чалавек забітымі і 1 191 параненымі. 3 (14) верасьня швэды дайшлі да Быкавічаў (пад Амсьціславам) і 9 верасьня пад Раеўкай зноў сутыкнуліся з расейскай арміяй -- але гэтая вёска былога Амсьціслаўскага

ваяводства знаходзіцца па-за абранымі намі геаграфічнымі межамі. Аднак ужо 14 (24) верасьня швэдзкі кароль загадаў сваёй арміі павярнуць на Севершчыну, і такім чынам, швэды зноў прайшлі праз сучасную Магілёўшчыну (19 верасьня яны былі ў Крычаве: Андэрс Пільстрэм занатаваў у сваім дзёньніку, што тут, па Сажы, праходзіць мяжа паміж Беларусьсю і Севершчынай; 23 верасьня – у Красавічах (цяпер Клімавіцкі раён), а затым ішлі лесам, пакуль ня выйшлі 29 верасьня (9 кастрычніка) да Ніўнага (цяпер Сураскі раён Бранскае вобласьці Расеі, у некалькіх кілямэтрах ад граніцы зь Беларусьсю). Менавіта ў гэты дзень на Прапойшчыне адбылася яшчэ адна бітва – бадай, найбольш вядомая сярод вышэйпералічаных -- Бітва пад Лясной, якую Пётар I пазьней назваў «*маці Палтаўскае баталіі*».

Улетку 1708, з Рыгі рушыла на ўсход швэдзкая армія на чале зь генэралам Адамам Людвігам Левэнгаўптам, з мэтай злучэньня яе з асноўнай арміяй Карла XII. Армія Левэнгаўпта налічвала ад 11 375 чалавек да 13 000 жаўнераў і 1 300 афіцэраў (і гэта без уліку грамадзянскіх людзей: прыслугі, фурманаў, кухараў, у т.л. жанчынаў: усяго іх было 7 100 чалавек). Але галоўнае, што меў з сабою Левэнгаўпт – гэта абоз са зброяй, амуніцыяй ды харчаваньнем, які налічваў ад 7 тыс. да 8 тыс. павозак.

17 (27) верасьня, калі Левэнгаўпт знаходзіўся ў Шклове (куды ён трапіў з Талачына), ён атрымаў ліст ад Карла XII, у якім кароль паведамляў, што павярнуў на Севершчыну (ён памылкова лічыў, што генэрал ўжо перайшоў Дняпро і знаходзіцца ў бясьпецы). Аб'яднаньне арміяў плянавалася ўжо ва Ўкраіне. Аднак Дняпро Левэнгаўпт перайшоў толькі пасьля таго, як атрымаў загад караля – з 21 да 23 верасьня: для гэтага швэды (полк генэрал-маёра Бэрнта Ота Стакэльбэрга (Старога)) пабудавалі пантонны мост. Непасрэдна работамі кіраваў капітан фартыфікацыяў Мортэн Камэкер. 26 верасьня (6 кастрычніка) Левэнгаўпт з абозам быў ужо у Беліцы (цяпер Чэрыкаўскі раён), а наступнай раніцай расейская кавалерыя напала на швэдаў. Левэнгаўпт здолеў адбіць атаку, але гэта каштавала часу. Увогуле, кароль загадаў генэралу пазьбягаць сутыкненьняў з праціўнікам. Але ўсяго праз тры дні, ля вёскі Лясная на Прапойшчыне, ён ўсё ж вымушаны быў прыняць бой.

Я ня буду апісваць у гэтым артыкуле ходу бітвы і аналізаваць яе – гэтая тэма вартая асобнага артыкулу. Прапаную лепш засяродзіцца на наступных момантах: па-першае, ці зьяўляецца рэзультат гэтае бітвы бясспрэчнай перамогай расейскай арміі, як гэта дагэтуль падаецца, у прыватнасьці, у Беларусі? Насамрэч, тут залежыць ад таго, над чым паставіць акцэнт. Калі ўлічваць, што частка швэдаў, уцякаючы ўначы, адбілася ад абозу і гэтак і не дайшла да Севершчыны, а сам абоз Левэнгаўпт быў вымушаны патапіць у балоце – то, канешне, гэта – перамога расейцаў. Але ж калі гаворыць « моваю сухіх лічбаў », то атрымаем наступнае: з 8 300 швэдаў, што непасрэдна ўдзельнічалі ў бітве (яшчэ 4 000 ўдзелу ў ёй не бралі) , ня болей за 1 000 былі забітыя і прыкладна 5 000 – 6 000. былі або параненыя, або зьніклі. З апошняй катэгорыі прынамсі 1 100 чалавек здолелі вярнуцца ў Рыгу і Мітаў. Акрамя таго, трапілі ў палон 385 чалавек. Афіцыйна лічыцца, што расейцы страцілі 1 111 чалавек забітымі і 2 856 параненымі. Але напрыклад, Павел Канавальчук і Эйнар Лют лічуць гэтыя зьвесткі сумнёўнымі: яны даказваюць, што яны былі наўмысна заменшанымі ў прапагандысцкіх мэтах; сюды дакладна не ўваходзяць страты (забітымі і/або параненымі) палку Баўэра (Боўра), калмыцкага палку, казакаў і растоўскіх драгунаў. Варта таксама дадаць, што адразу апасьля бітвы каля 500 швэдзкіх коньнікаў, разам з афіцэрамі і генэраламі Левэнгаўптам і Стакэльбэргам, зрабілі аб'езд поля бою, каб праверыць, ці можна яшчэ выратаваць каго з параненых, а таксама каб прадэманстраваць праціўніку, што гэта яны, швэды, зьяўляюцца гаспадарамі сытуацыі. А ўначы швэды вырашылі адыходзіць, парушыўшы ў пэўнай ступені расейскія пляны навязваньня генэральнай баталіі. Таму, тое што адбылося пасьля бітвы – гэта ўжо наступствы, а самую бітву, можна было б назваць, хутчэй «матчам унічыю», і не ў якім разе ня « жорсткай паразай Левэнгаўпта», як тое падавалася ў савецкі час.

Па-другое, нажаль і ў нашыя дні ў Беларусі папулярна легенда аб тым, што беларусы, маўляў, толькі і рабілі, што дапамагалі расейцам у барацьбе « з агульным ворагам». Аб тым, як насамрэч ставіліся беларусы да швэдаў – крыху ніжэй. Пакуль толькі адзін факт: сярод удзельнікаў Бітвы пад Лясной са швэдзкага боку было і 50 «палякаў» (гэтак называлі ўсіх жыхароў Рэчы Паспалітае: магчыма, сярод гэтай паўсотні ваяроў былі і этнічныя беларусы).

## МІТ ПРА БАРАЦЬБУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА СУПРАЦЬ ШВЭДЗКІХ АКУПАНТАЎ

Любая вайна нясе любому народу шмат пакутаў, і Вялікая Паўночная вайна ў дачыненьні да беларускага народу – не выключэньне. Але памылкова думаць, што беларусы ўспрымалі расейцаў як вызваленцаў (і гэта ўсяго праз паўстагодзьдзя пасьля Трынаццацігадовае вайны з Масковіяй!), а швэдаў – выключна як ворагаў. Варта нагадаць, што ў Вялікім Княстве Літоўскім у той час ішла грамадзянская вайна: частка шляхты, сярод якой былі Вішнявецкія, Агінскія, Радзівілы, падтрымлівала караля Аўгуста II і, адпаведна, Пятра I – карацей кажучы, тых, хто ў 1700 годзе распачаў вайну супраць Швэцыі (менавіта так: у той час кароль-юнак Карл XII, якому было 18 гадоў, пачынаць вайну наваті не плянаваў!); а вось другая частка шляхты, на чале з Сапегамі, марыла аб незалежнасьці ВКЛ ад Польшчы і таму падтрымлівала швэдаў. У кастрычніку 1703 г. Казімер Ян Павал Сапега перадае ўсе свае маёнткі пад швэдзкі пратэктарат, а сам прымае швэдзкае падданства. Сярод сапегаўскіх гарадоў былі, у прыватнасьці, Быхаў і Шклоў . Падтрымалі швэдаў і месьцічы-купцы беларускага Падзьвіньня ды Падняпроўя. Напрыклад, магілёўцы, пабачыўшыя дагэтуль шмат пакутаў ад расейцаў, хлебам-сольлю сустракалі швэдаў і іх караля, урачыста ўехаўшага ў горад празь Віленскую браму 8 ліпеня (9 паводле швэдзкага і 19 паводле Грыгарыянскага календару) 1708 г., а бурмістар Магілёва ўручыў манарху на чырвоным рушніку сымбалічны ключ ад гораду.




*Мапа ваенных дзеяньняў на тэрыторыі Беларусі падчас Вялікай Паўночнай вайны*

У якасьці доказу барацьбы беларускага народу супраць швэдаў нярэдка прыводзяцца словы Пятра I: «*понеже и по лесам мужики зело бьют*». Але насамрэч, гэтыя «*мужыкі*» складаліся пераважна, з расейскіх войскаў, украінскіх казакоў прарасейскага гетмана Скарападзкага, а таксама рабаўніцкіх хеўраў з магілёўскай шляхты ды сялянаў (прынамсі апошнім было абыякава – каго рабаваць – швэдаў, або расейцаў). Канешне, асобныя выпадкі, калі беларусы забівалі швэдзкіх жаўнераў, таксама маглі мець месца (гэта маглі быць, напрыклад, сяляне, якія абараняялі сваю маёмасьць), але казаць пра «барацьбу» супраць швэдаў усяго беларускага народа – відавочнае перабольшваньне! А вось пара доказаў адваротнага – калі жыхары ВКЛ (і ня толькі этнічныя беларусы) дапамагалі швэдам: напрыклад, шляхціц Рыгор Жаркевіч праводзіў армію Карла XII ад сваёй роднай вёскі Падзерні да Крычава; адзін габрэй паказаў капітану драгунаў Бэрнгарду Віргіну, які неўзабаве пасьля бітвы пад Лясной спрабаваў разам са сваім атрадам прабрацца з Прапойску да Севершчыны, дзе лепей было перайсьці ўброд

Сож. Дапамагалі жыхары Беларусі і параненым швэдам. А швэдзкія хаўрусьнікі — беларусы з атрадаў Сапегі -- забівалі, як можна зразумець, ня швэдаў, а расейцаў: як гэта было, напрыклад, калі апошнія вярталіся зь Лясной у Смаленск – тады было забіта каля 200 (пераважна, параненых) чалавек зь Сямёнаўскага полку.

Існуюць таксама лягенды, якія, быццам, зьяўляюцца пацьверджаньнем тое самае «барацьбы беларусаў са швэдзкімі захопнікамі». Дзеяньне адной зь іх адбывалася ў хуткім часе пасьля Бітвы пад Лясной, ў вёсцы Гайшын на Прапойшчыне:

> «...*Адступаючы швэды перапраўляліся праз раку Сож каля в. Гайшын. А справа была вось як. Ціхім восенскім ранкам над вёскай пранёсься чыйсьці трывожны воклік: "Швэды ідуць!" і сапраўды, цераз вёску, па бальшаку, праходзіў атрад варожай арміі. Нельга было бязь сьмеху глядзець на гэтых абарваных, выпацканых у балотнай гразі чужынцаў, тым больш, што многія зь іх былі бяз зброі. Ішло ня грознае войска, а дрыжачы ад страху, голаду і холаду натоўп. І вось, калі адзін такі ваяка з вар'яцкім тварам заскочыў у адну зь сялянскіх хат, зь ліха якім намерам, то гаспадыня, спачатку аканямела ад перапалоху, неўзабаве хутка апамяталася і пакуль той, дзіка вылупіўшы вочы, штосьці гергетаў па-свойму, яна схапіла зь печы чыгун з варам і з крыкам: "Згінь, нячысты" чухнула кіпеню на швэда. Лямантуючы, той кінуўся наўцекі. Расейская коньніца, якая прасьледвала іх і якая на наступны дзень прыбыла ў вёску, не засьпела ў ваколіцах Гайшына ніводнага чужынца...*».

А цяпер паспрабуем прааналізаваць гэтую лягенду. Як мы ўжо высьвятлілі, выраз «*варожай арміі*» не адпавядае рэчаіснасьці: хутчэй за ўсё, ён быў дададзены да легенды значна пазьней. «*Чужынцы*» -- іншая справа, бо гэта не былі ні ліцьвіны, ні нават палякі. Далей: калі швэдзкі жаўнер зайшоў у адну з хат, гаспадыня «*чухнула на яго кіпеню*». А як павінна была зрэагаваць гэтая жанчына, калі дакладна сказана, што яна настолькі напужалася аднаго з абарваных, выпацканых у гразі чужынцаў, які яшчэ і « дзіка вылупіў вочы », што спачатку нават « *акамянела ад перапалоху*»? Ці, можа, яна павінна была кінуцца да яго цалавацца? Пасьля кароткага шоку, яна проста інстынктыўна пачала абараняцца, нават не выбіраўшы спосаб, як гэта зрабіць, а зрабіла тое, што адразу прыйшло ў галаву. Але: ці былі ў яе аб'ектыўныя падставы да таго, каб праганяць гэтага чужынца? Насамрэч – не! Хіба што – моўны бар'ер, бо дакладна сказана, што швэд «*штосьці гергетаў па-свойму*»: значыць, ён спрабаваў штосьці растлумачыць, хутчэй за ўсё, ён прасіў дапамагчы (паесьці, папіць, і галоўнае -- схавацца ад перасьледу, бо ён небеспадстаўна « дзіка вылупіў вочы » -- хутчэй за ўсё, ён ведаў, што расейцы іх, швэдаў, ужо шукаюць, і быў вельмі напужаны). Калі б ён меў « ліха якія намеры », ён бы адразу перайшоў да дзеяньняў, а не «гергетаў» - гэта ўсё ж, не амэрыканскі фільм жахаў, дзе злачынца паўгадзіны тлумачыць ахвяры, што і як ён зь ёй зробіць! А калі ён шукаў дапамогі ў беларусаў, значыць, ён ведаў, што, магчыма, ён яе знойдзе. У лягендзе таксама ня сказана – што зрабіла гэтая кабета потым: можа, яна пашкадавала аб сваім ўчынку, дагнала небараку і дапамагла схавацца ад расейцаў? І можа, менавіта таму царскія войскі « не засьпелі ў ваколіцах Гайшына ніводнага чужынца », што тыя змаглі схавацца ў мясцовых жыхароў? Натуральна, гэта толькі меркаваньне, але, як бачна, лічыць падобную лягенду бясспрэчным доказам «барацьбы беларускага народу супраць швэдаў» ані ў якім разе нельга.

## ТЭРЫТОРЫЯ СУЧАСНАЕ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ Ў ДЗЁНЬНІКАХ КАРАЛІНАЎ

Прынамсі тыя караліны, якія пакінулі нашчадкам свае дзёньнікі, былі людзьмі адукаванымі. Некаторых зь іх цікавіла ўсё, што яны бачылі: культура і звычаі іншых народаў, замежныя гарады і вёскі. Многія зь іх штодзень запісвалі якім шляхам яны ішлі, якія населеныя пункты праходзілі (праўда, іх назвы швэды ўспрымалі, пераважна, на слых, таму цяпер даволі цяжка распазнаць назвы некаторых зь іх). Ім цікава, на якіх рэках стаяць гарады й мястэчкі, у якіх ім даводзіцца пабываць: Галоўчын - «на невялічкім ручаю Вабіч», Крычаў – на Сажы, а Магілёў – «*на Дняпры (Nipern), або Барысфене*» . Яны сьведчаць, што «*Жыдоўскі горад Шклоў*» ёсьць «*адносна буйным, ляжыць на Дняпры і належыць Сапегам*», а Магілёў «*...горад добра збудаваны й мае заможны, дыхтоўны выгляд. Мае земляны вал, які абкружае колам увесь Магілёў, нават прадмесьце на гэтым беразе ракі таксама абаронена валам*». У швэдзкіх ўспамінах ёсьць і даволі кур'ёзныя згадкі, якія ўскосна гавораць пра населеныя пункты сучаснае Магілёўшчыны. Вось які выпадак, які адбыўся 25 верасьня (5 кастрычніка) 1708 году, занатаваў у сваім дзёньніку лейтэнант Эстэр'ёцкага кавалярыйскага палку, амаль 26-гадовы Леангард Каг:

> «...*У гэты самы дзень, у лесе пад Хоцімскам (Hotzemetz), быў забіты насьмерць дрэвам адзін коньнік з лейб-гвардзейскага палку*».

## ШВЭДЗКАЯ ТАПАНІМІКА НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

У сваёй кнізе « Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў» Андрэй Котлярчук уздымае, між іншым, і такое цікавае пытаньне, як Швэдзкая тапаніміка ў Беларусі і прыводзіць, у т.л., шмат прыкладаў з Магілёўшчыны: тут і шлях з Ухалодаў у Галоўчын, які мае назву « Каралеўская грэбля », бо лічыцца, што ён быў пабудаваны ў 1708 годзе каралеўскай гвардыяй Карла XII, і «Карлаў акоп» у Горках, і «Карлава даліна» пад Магілёвам (у гэтым месцы, паміж горадам і Буйніцкім манастыром, у ліпені 1708 году стаяла швэдзкае войска) . Згадвае ён і шматлікія беларускія вёскі з назвай Швэды, Швяды і інш., у якіх жывуць нашчадкі тых самых швэдаў, да якіх я бы дадаў яшчэ й Караліны, Караліно і да т.п. Але ўсе гэтыя вёскі знаходзяцца па-за межамі Магілёўскае вобласьці.




Што да Магілёўшчыны, а канкрэтна – да Прапойшчыны, то мне падаецца цікавай назва адной вёскі – Сьвенск. Справа ў тым, што слова «Svensk» перакладаецца са швэдзкай мовы як «швэдзкі/швэдзкая», а таксама «швэд». А калі ўлічваць, што па-першае, Сьвенск знаходзіцца ўсяго ў некалькіх кілямэтрах ад знакамітай Лясной – у тым самым сучасным Слаўгарадзкім раёне, і па-другое, што, як мы ўжо ўбачылі, частка каралінаў засталася ў Беларусі і нават заснавала шэраг вёсак, то лягічным будзе меркаваць, што і Сьвенск быў заснаваны швэдамі. А той факт, што вядомым Сьвенск становіцца толькі ў 1870 годзе, можна патлумачыць тым, што з часу свайго заснаваньня (не раней за кастрычнік 1708 г.) ён быў дробным населеным пунктам (хутарам, фальваркам, або невялічкай вёскай) і ня меў будзь-то якога значэньня. Таму, магчыма, і ў Сьвенску жывуць цяпер нашчадкі швэдаў.

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

У заключэньне варта яшчэ раз падкрэсьліць, што вывучэньне швэдзкай гісторыяграфіі і, асабліва, першакрыніцаў, такіх як дзёньнікі каралінаў, дазваляе нам істотна ўзбагаціць веды пра Вялікую Паўночную вайну ў Беларусі, і на тэрыторыі сучаснае Магілёўшчыны ў прыватнасьці, а з улікам такіх падзеяў нашае гісторыі, як Грамадзянская вайна ў ВКЛ, а таксама факту наўмыснага скажэньня гісторыі ў савецкі час, мы цяпер маем магчымасьць больш аб'ектыўна падыйсьці да вывучэньня пэрыяду Вялікае Паўночнае вайны і яе наступстваў.

Цяпер мы можам па-іншаму ацэньваць вынікі Бітвы пад Лясной, і, разам з тым, памятаць і аб іншых бітвах гэтае вайны – Галоўчынскай ды пад Маляцічамі. Мы бачым таксама, што пагалоўнай барацьбы беларускага народу супраць швэдаў не было і што наадварот, частка беларусаў дапамагала швэдам. Цяпер нам вядома, што караліны пакінулі ў сваіх дзёньніках шмат цікавай інфармацыі, у т.л. і пра тэрыторыю сучаснае Магілёўшчыны. Пакінулі швэды свой сьлед і ў тапаніміцы Магілёўскага краю.

Разам з тым, варта адзначыць, што тэматыка знаходжаньня швэдаў на Магілёўшчыне і ў Беларусі ў цэлым у час Вялікай Паўночнай вайны далёка ня вычарпана, і далейшае знаёмства са швэдзкімі крыніцамі можа адкрыць нам яшчэ шмат чаго цікавага.

Гэты артыкул зьявіўся па-ангельску ў Belarusian Review, Vol. 26, No. 3.

# ЛЕАНІД ДАЙНЭКА:
# АРШАНСКАЯ БІТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА



*Бітва пад Воршай, гравюра 1597 году*

*Пра значнасьць гэтай бітвы (8.IX.1514 г.) ў гісторыі і яе працяг у сучаснасьці журналіст беларускай рэдакцыі «Радыё «Свабода» Міхась Скобла гутарыць зь пісьменьнікам, аўтарам гістарычных раманаў Леанідам Дайнэкам.*

Леанід Дайнэка: Шчыра кажучы я дапускаю, што некаторыя нашы сёньняшнія чыноўнікі ў той бітве былі б не пад сьцягам Канстанціна Астроскага, а пад сьцягам маскоўскага ваяводы Івана Чалядніна. Справа ў тым, што наша дзяржава і яе палітыка, у тым ліку і культурная, знаходзяцца ў магнітным полі Расеі. Дык як жа яны будуць праслаўляць тую бітву, у якой былі разьбітыя продкі іхных гаспадароў? Мы ж ня ворагі расейскаму народу. Мы ворагі захопнікам, якія прыходзілі на нашу зямлю. У свой час Гітлер абтрэльваў фаўстамі Лёндан. Дык што, англічане ворагі немцам? Не. Так і мы — разьбілі прышлых ворагаў. І правільна зрабілі, паколькі баранілі свой дом, сваю зямлю, сваю дзяржаву. А дзяржавай нашай на той час было ВКЛ, мы былі грамадзянамі і воінамі гэтай дзяржавы. Дарэчы, я зайважыў такую акалічнасьць: слова Ворша паходзіць ад ангельскага слова war — вайна. Вось такое супадзеньне.

Міхась Скобла: *Да 500-годзьдзя Бітвы пад Воршай Нацыянальны банк выпусьціў памятную манэту (праўда, яе пакуль ніхто ня бачыў). Шкада, што Аршанскі райвыканкам не падначальваецца Нацбанку…*

ЛД: Так, я абсалютна згодны. Значыць, у Нацбанку працуюць прагрэсіўныя людзі. Трэба толькі іх пахваліць. Хай і надалей выпускаюць такія манэты, якія зь вялікай ахвотай будуць раскупляць нашы нумізматы і тыя, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі. Дарэчы, Нацбанк пастаянна выпускае такія манэты. Мой сярэдні сын Зьміцер іх любіць набываць.

МС: *Бітва пад Воршай апісваецца ў вашым рамане «Назаві сына Канстанцінам». Войска ВКЛ было колькасна меншым, але мела артылерыю. Чаму маскоўцы прыйшлі на Крапівенскае поле без гарматаў?*

ЛД: З-за самаўпэўненасьці сваёй. Яны пакінулі артылерыю ў Смаленску і хуценька рынуліся на безабароннае, як яны думалі, ВКЛ. Маскоўцам хацелася як мага хутчэй рабаваць, забіраць у палон цяглых мужыкоў, маёмасьць. Вядома ж, адсутнасьць артылерыі сыграла сваю ролю. У вырашальны момант Канстанцін Астроскі якраз выставіў сваю артылерыю, якая ўшчэнт зрэзала маскоўскую коньніцу. Тут праявіўся і ваенны талент Астроскага, які спачатку зрабіў выгляд што адступае, і маскоўцы, ашалеўшы ад нечаканай перамогі, парушылі свае баявыя парадкі і рынуліся ў наступ. А войска ВКЛ расступілася, і баярская коньніца Масквы апынулася проста перад жэрламі гарматаў, перад мушкетамі. І пачалі дагэтуль непераможныя маскоўцы ўцякаць — хто як мог ратаваўся. Усё поле было завалена трупамі, вада ў рэчцы стала чырвонай. Загінулі каля 40 тысячаў маскоўцаў, 5 тысячаў трапілі ў палон, у тым ліку галоўны ваявода Чаляднін, яшчэ 8 ваяводаў, 17 военачальнікаў высокага рангу, 2000 дзяцей баярскіх. А пераможцам, воінам Канстанціна Астроскага, раздалі 20 000 трафейных маскоўскіх коней. І яны горда паехалі дадому на тых конях.

МС: *Бітва пад Воршай нечаму навучыла Маскву?*

ЛД: На жаль, не навучыла. Вядома, расейцаў шмат, яны аб'яднаныя нейкай царысцкай ідэяй, што ў іх наверсе толькі адзін чалавек сядзіць, а ўсе — пад ім. Яны заўсёды атакавалі нашы землі. Яны пашыраліся на ўсход, дайшлі да Ціхага акіяну. Яны хацелі прарвацца ў Эўропу, шукалі шляхі да Балтыйскага мора — Іван Жахлівы вёў тысячы і тысячы сваіх людзей, але ўсе загінулі і не прабіліся. І сёньняшні прыклад з Украінай — тое самае. Пяцьсот гадоў таму беларусы і ўкраінцы ўваходзілі ў адну дзяржаву — ВКЛ, тады мы ўсе былі ліцьвінамі. Тады Масква ішла вайной на беларускія землі, а сёньня — на Данбас, на Ўкраіну — нашу сястру ў ВКЛ. Маскоўцы неўспрымальныя да ўрокаў гісторыі. Хоць у іхнага арла дзьве галавы, але глядзяць яны не туды. Я сам гадоў сем жыў у Расеі. Расейскі народ вельмі добры і шчыры, ён можа і папрацаваць, і чарку выпіць, і пасьпяваць. Але на іх прапаганда ўзьдзейнічае. Глядзіце, фільмы ў іх толькі пра нейкіх супэрагентаў, якія адным ударам трох зьбіваюць з ног, страляюць зь дзьвюх рук, жанчыны таксама. Хутка ўжо і дзеці будуць камісарамі Мэгрэ ў іхных фільмах.



*КАНСТАНТЫН АСТРОСКІ*
*(1460 — 1530)*
*дзяржаўны і вайсковы дзяяч Вялікага Княства Літоўскага. Найвышэйшы гетман (1497—1500 і з 1507), кашталян віленскі (1511—1522), ваявода троцкі (з 1522). Камандуючы войскам Вялікага княства Літоўскага ў часе Бітвы пад Оршай 8 верасьня 1514 г.*

МС: *Давайце пагаворым пра Астроскага. Ён фігура няпростая: быў у маскоўскім палоне (пасьля Бітвы на Вядрошы ў 1500 годзе), прысягнуў на вернасьць маскоўскаму цару… Ці ў гісторыі бліскучая перамога сьпісвае ўсе грахі?*

ЛД: Так, аршанская перамога сьпісала ўсе яго грахі. Астроскі сапраўды прыняў прысягу на вернасьць цару, у царкве, у прысутнасьці патрыярха. Але гэта было пад прымусам. А калі яму загадалі раць падымаць, каб ісьці на паўночную Ўкраіну, ён уцёк, вярнуўся ў Вільню і пачаў зьбіраць войска, каб весьці яго на ўсход. Ніякага клятваадступніцтва я тут ня бачу. У гісторыі так часта было.

МС: *Адзін з герояў вашага раману гаворыць: «Для Масквы галоўнае — «собирать Русь». Хоча Русь гэтага зьбіраньня ці ня хоча, у яе, Русі, не пытаюць». Як гэта сугучна сёньняшняму дню, калі Крэмль прыдумаў нейкі «рускі мір» і таксама намерыўся яго зьбіраць.*

ЛД: На жаль, сапраўды гісторыя паўтараецца. Умоўна кажучы, Бітва пад Воршай працягваецца і сёньня — ва Ўкраіне. І я ўпэўнены, што ўкраінцы ўрэшце перамогуць, як перамаглі нашы продкі на Крапівенскім полі. Нядаўна я напісаў верш, прысьвечаны Ўкраіне.

МС: Ва Ўкраіне, дарэчы, ўгодкі Бітвы пад Воршай адзначаліся з размахам — ажно ў пяці гарадах. І апошняе пытаньне. Расея абвесьціла нацыянальным сьвятам дзень 4 лістапада, калі ў 1612 годзе Масква здолела адбіцца ад войска Рэчы Паспалітай, куды ўваходзілі і беларускія землі. Беларусь магла б зрабіць сымэтрычны адказ — абвесьціць нацыянальным сьвятам 8 верасьня. Быў бы выйгрышны ход — нават для сёньняшніх уладаў.

ЛД: Ход быў бы выйгрышны, але, на жаль, беларускім уладам ён непатрэбен. Пакуль што Дзень беларускай вайсковай славы дзяржаву не цікавіць. А мы памятаем, як у 90-я гады Згуртаваньне беларускіх вайскоўцаў яго адзначала. Як на плошчы прымалі прысягу на вернасьць Беларусі пад бел-чырвона-белым сьцягам 3000 шэрагоўцаў і 600 афіцэраў. Думаю, што рэха Аршанскай бітвы будзе гучаць у сэрцах маладых людзей. Пішучы свае гістарычныя раманы, я хачу, каб мы не забывалі пра тыя далёкія часы, калі наш народ сяліўся, станавіўся на ногі каля Дняпра, каля Рубона-Дзьвіны, каля Нёману — у цэнтры Эўропы. І нам трэба ведаць сваё гераічнае мінулае. Я веру, што дзень 8 верасьня будзе ў будучыні абвешчаны дзяржаўным сьвятам Рэспублікі Беларусь.

*гутарыў* Міхась Скобла

Крыніца: svaboda.org

## ГРУНВАЛЬДЗКАЯ БІТВА — ПЕРАМОГА, ЯКАЯ ЗРАБІЛА ВКЛ ДЗЯРЖАВАЙ «АД МОРА ДА МОРА»

*Перамога саюзьнікаў пад Грунвальдам спыніла шматвяковую экспансію крыжакоў на славянскія землі. Пра бітву і яе значэньне журналіст беларускай рэдакцыі «Радыё «Свабода» Вячаслаў Ракіцкі размаўляе з Алегам Трусавым.*



*Грунвальдзкая бітва -- бітва паміж аб'яднанымі войскамі Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага і прафэсійным войскам наймагутнейшай у тагачаснай Эўропе мілітарысцкай дзяржавы Тэўтонскага ордэну. Адбылася 15 ліпеня 1410 году. Перамога саюзьнікаў пад Грунвальдам спыніла шматвяковую экспансію крыжакоў на славянскія землі.*

*У Польшчы і Літве Грунвальд зьяўляецца сымбалем спрадвечнай нацыянальнай вайсковай славы, мужнасьці народаў у адстойваньні свабоды і незалежнасьці. Грунвальд для палякаў і літоўцаў – адзін з найпрыгажэйшых гістарычных мітаў. У Беларусі на дзяржаўным узроўні і ў афіцыйнай навуцы перамога саюзьнікаў пад Грунвальдам замоўчвалася ці аддавалася суседнім народам. І толькі нацыяналісты змагаліся за вяртаньне праўды пра Грунвальд у сьвядомасьць нацыі, выводзілі перамогу ў той бітве на ўзровень міту.*

Вячаслаў Ракіцкі: *Найперш пра рэальныя гістарычныя падмуркі міту. Якія пляны мелі тэўтоны адносна зямель Вялікага Княства Літоўскага – старажытнай беларускай дзяржавы?*

Алег Трусаў: Генэральная бітва Вялікай вайны, якая пачалася ў 1409 годзе і скончылася ў 1411-м, зьяўлялася адным з этапаў ажыцьцяўленьня агрэсіўнай ваенна-палітычнай канцэпцыі ордэну "Дранг нах Остэн", канчатковай мэтай якой было стварэньне Вялікай Тэўтоніі ад выспы Руген у Балтыйскім моры да Фінскага заліва з уключэньнем у яе склад Польшчы, Беларусі, старажытнай Літвы, Пскоўшчыны і ўладаньняў Вялікага Ноўгараду.

ВР: *Рэальна – хто, як, пад чыім кіраўніцтвам даў адпор агрэсарам?*

АТ: Асноўныя вайсковыя сілы – гэта аб'яднаныя войскі Вялікага Княства Літоўскага на чале з князем Вітаўтам і Польскай кароны на чале з Ягайлам. Таксама прысутнічалі баявыя атрады чэхаў і татараў. Лепшым намесьнікам Вітаўта быў мсьціслаўскі князь Сімяон, які зрабіў усё магчымае, каб спыніць тэўтонаў пасярод Грунвальдзкага поля.

ВР: *Які вынік бітвы на той час і якія гэта мела наступствы для пэрспэктывы беларусаў?*

АТ: Пасьля бітвы пад Грунвальдам ВКЛ стала адной з самых вялікіх дзяржаваў Эўропы, як кажуць, ад мора да мора. І беларусы здолелі жыць даволі мірна і добра аж да канца XУ стагодзьдзя.

ВР: *Такім чынам, бітва мела выключнае значэньне для пэрспэктывы беларусаў. Дык чаму ж тады ў сьвядомасьці шматлікіх пакаленьняў беларусаў гэтая ўнікальная падзея ніяк не адбілася?*

АТ: У паняволенага народу заўсёды забіраюць яго мову, гісторыю і асабліва яго гістарычныя міты. І вядома, што пасьля татальнай палянізацыі спачатку, а пасьля і русыфікацыі ўсе гістарычныя міты беларусаў былі проста зьнішчаныя.

ВР: *Дык што канкрэтна замінала савецкім беларускім гісторыкам належным чынам адзначыць вынікі і наступствы гэтай бітвы, напрыклад, у школьных падручніках?*

АТ: Адсутнасьць нацыянальнага беларускага міту аб перамозе нашых продкаў на Грунвальдзкім полі, бо там не было ні чырвонага, ні савецкага войска. А перамагаць жа, паводле савецкай ідэалёгіі, маглі толькі бальшавікі. Спачатку гэты міт у XIX стагодзьдзі прыватызавала Расейская імпэрыя, а потым -- Польшча і Літва, якія вырваліся з кіпцюроў расейскага арла ў 1918 годзе.

ВР: *Значыць, да расейскай акупацыі беларускіх зямель гэты факт гісторыі ўсё ж шанаваўся?*

АТ: Вядома. Ён зафіксаваны ва ўсіх нашых беларуска-літоўскіх летапісах, хроніках, гістарычнай літаратуры. Аднак там запісана, што гэта перамога ліцвінаў, жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, бо этнонім "беларусы" – гэта зьява XIX стагодзьдзя.

ВР: *Якім чынам можа нехта прыватызаваць тое, што належыць іншаму? Як так сталася? Ці ўкралі ў беларусаў іхнюю славу, ці яны самі аддалі яе? Каму перашкаджала праўда пра Грунвальд?*

АТ: Праўда пра Грунвальд перашкаджала ўсім суседзям Беларусі, якія прэтэндавалі на яе этнічную тэрыторыю і не жадалі, каб паўстала незалежная Беларусь. Гэта можна сказаць у першую чаргу пра Расею. І ў нейкай ступені пра Польшчу і Літву. І, канешне, калі ёсьць нацыя са сваімі гістарычнымі мітамі, то тады адабраць у яе нешта складана.

ВР: *Парадаксальна атрымліваецца: самая значная гістарычная падзея замінае абвяшчэньню незалежнасьці краіны…*

АТ: Не замінае, а замінала, бо за савецкім часам падручнікі Лаўрэна Абэцэдарскага ўсё ж прысьвяцілі некалькі радкоў Грунвальду. Магу працытаваць: "У 1410 годзе пад Грунвальдам нямецкія рыцары былі разьбітыя. У Грунвальдзкай бітве супраць захопнікаў разам з літоўцамі і палякамі гераічна змагаліся апалчэньні берасьцейскай, гродзенскай, ваўкавыскай, лідскай, пінскай, полацкай, віцебскай, смаленскай зямель." Як бачым, літоўцы і палякі на полі бітвы ёсьць, а беларусаў няма. Замест іх нейкія непрафесійныя ваякі з невядомых у XIV стагодзьдзі зямель. Можна было прачытаць і ўвогуле пра "рускія палкі" пад Грунвальдам. Няма пазначэньня месца Грунвальдзкага поля і на гістарычных мапах, што дадаваліся да падручнікаў па гісторыі БССР. У чым жа справа? Справа ў тым, што, паводле вэрсіі Абэцэдарскага, беларусаў у той час не існавала. Яны створацца на базе "древнерусского народа" толькі ў XУІ стагодзьдзі.

ВР: *Такім чынам, гэтак званыя "рускія палкі", пра якія пісалі і расейскія, і беларускія афіцыйныя гісторыкі, ёсьць менавіта палкі беларускія?*

АТ: Пачнём з XIX стагодзьдзя. У сярэдзіне XIX стагодзьдзя ў Расейскай імпэрыі канчаткова склалася ідэалёгія панславізму, якая варожа ставілася, як да нямецкага сьвету, так і да мусульманскага. У папулярным падручніку па расейскай гісторыі акадэміка Платонава, які ўпершыню пабачыў сьвет у 1909 -- 1910 гадах, а ў канцы XX стагодзьдзя быў перавыдадзены ў сёньняшняй Расеі, чытаем наступнае: "…злучаныя сілы Заходняй Русі, Літвы і Польшчы нанесьлі ў 1410 годзе жахлівую паразу Тэўтонскаму ордэну на мяжы Прусіі і Польшчы, каля вёсак Грунвальд і Таненбэрг. Гэта знакамітая бітва, у якой рускае і польскае славянства перамагло германцаў, склала эпоху ў гісторыі Ордэну і Польшчы. Магутнасьць Ордэну зьнікла, і заваёвы яго спыніліся". Як бачым, тут няма ня толькі беларусаў, але і сучасных літоўцаў.

ВР: *А што палякам замінала гаварыць усю праўду пра Грунвальдзкую бітву? Чаму яны замоўчвалі ўдзел беларусаў?*

АТ: Да 1939 году Польшча Пілсуцкага мела ад Леніна палову Беларусі і, канешне, разьвіваць ёй там гістарычныя міты было нязручна. Пасьля вайны ўжо польскім камуністам Сталін перадаў частку нашай этнаграфічнай тэрыторыі. Таму польскія камуністы баяліся спрыяць уздыму гістарычнай сьвядомасьці беластоцкіх беларусаў.

ВР: *Што зьмянілася ў савецкай і польскай гістарыяграфіі ў апісаньні Грунвальдзкай бітвы пасьля завяршэньня Другой усясьветнай вайны?*

АТ: Вядома, зьмены адбыліся, і часам істотныя. З мапы Эўропы зьнікла Усходняя Прусія. Яе падзялілі паміж СССР і Польшчай, кавалачак перадалі Літоўскай ССР. Грунвальдзкае поле апынулася ў складзе польскай дзяржавы, і яна ў 1960 годзе паставіла там помнік і стварыла музэй. Сталін дазволіў літоўскім гісторыкам прыватызаваць гісторыю ВКЛ, і грунвальдзкая тэма запанавала ў савецкай Літве ва ўсіх сфэрах літоўскай культуры. Рускія савецкія гісторыкі згадвалі пра тры "рускія палкі"(аршанскі, мсьціслаўскі, смаленскі), што мужна стаялі на полі бітвы і не далі немцам разбіць войска ВКЛ. Толькі беларусы маўчалі.

ВР: *А ведалі праўду?*

АТ: Толькі адзінкі. Гэта некаторыя гісторыкі – Анатоль Грыцкевіч, Мікола Ермаловіч, Мікола Ўлашчык і пазьней – Міхась Ткачоў.

ВР: *Калі ж стаў паўставаць беларускі міт пра Грунвальд?*

АТ: У 1980-1990-х гадах мінулага стагодзьдзя. Гэта заслуга беларускай інтэлігенцыі -- мастакоў, пісьменьнікаў і гісторыкаў. Зьявіліся мастацкія творы, гістарычныя аповесьці і адпаведныя навуковыя публікацыі. Летам 1990 году ўпершыню беларуская дэлегацыя моладзі і патрыятычнай інтэлігенцыі пад кіраўніцтвам знанага гісторыка і археоляга Міхася Ткачова зьявілася на Грунвальдзкім полі, дзе палякі разам

з літоўцамі сьвяткавалі 580-я ўгодкі перамогі.

ВР: *Калі гавораць пра значэньне Грунвальдзкай бітвы для беларускай дзяржаўнасьці найчасьцей можна пачуць, што ў выніку яе паскорылася кансалідацыя беларускіх і літоўскіх зямель у адну дзяржаву. Ці ня ёсьць гэта перабольшваньнем заходняга фактару?*

АТ: Вядома, ёсьць. Бо беларускія землі канчаткова кансалідаваліся напярэдадні Грунвальдзкай бітвы. У 1404 годзе быў далучаны Смаленск. Іншая справа, што пасьля Грунвальду пачалася кансалідацыя будучага літоўскага этнасу, бо менавіта Жмудзь трапіла ў склад ВКЛ.

ВР: *Існуюць дакумэнтальныя сьведчаньні, што Ордэн на пачатку ХУ стагодзьдзя быў схільны да замірэньня з ВКЛ, а на пачатку стагодзьдзя Папа рымскі сваёй булаю наогул забараніў нямецкім рыцарам ваяваць Вялікае Княства Літоўскае. Мо ня варта было Вітаўту лезьці ў бойку ў хаўрусе з Польскай Каронай, супраць якой Тэўтонскі ордэн найперш і ваяваў? Зрэшты, бітва была не на беларускіх землях…*

АТ: Да Грунвальду немцы больш, чым 150 гадоў рэзалі і палілі беларускія гарады і вёскі. Толькі Гародню яны палілі некалькі разоў. І Вітаўт ледзь уцёк з таго драўлянага замка, які абклалі і спалілі крыжакі, акурат за некалькі гадоў да бітвы.

ВР: *Удзел у Грунвальдзкай бітве – помста?*

АТ: І помста таксама. Але з другога боку – немцы не пускалі беларусаў у Балтыйскае мора. У выніку перамогі пад Грунвальдам мы далучылі Жмудзь, атрымалі шырокі выхад у Балтыку і змаглі жыць спакойна і заможна яшчэ сто гадоў.

ВР: *Вы лічыце міт пра Грунвальдзкую бітву беларускім?*

АТ: Грунвальд – агульны ўсходнеэўрапейскі міт. Ён павінен належаць чатыром народам-пераможцам – беларусам, палякам, літоўцам і ўкраінцам, якія там таксама былі.

ВР: *Які плён зь яго можа быць для нацыі? У якім кірунку яго трэба разьвіваць?*

АТ: Цяпер вельмі важна, каб людзі ганарыліся сваёй гісторыяй, каб беларусы ведалі, што яны могуць абараніць сваю незалежнасьць, калі будзе ў гэтым патрэба. І што менавіта нашы далёкія продкі паказалі такія прыклады мужнасьці, што ў кожным горадзе трэба ставіць помнікі нашым змагарам.

*гутарыў Вячаслаў Ракіцкі*

Крыніца: svaboda.org


# KRYVIJA

časopis běloruské menšiny
v České Republice

REDAKCE ČASOPISU:
Jurka Stankievič (1928-2014) (zakladatel)

---

Adam Kalita (šéfredaktor)

Kiryl Kascian (webredaktor)



Kontaktní adresa:
Časopis KRYVIJA
ul. 5 května 1043/32,
Praha 4, 140 00
Tel.: +420 773 276 535
e-mail: pahonia.info@gmail.com
www.thepointjournal.com
www.pahonia.cz


---

Калі ласка, дасылайце ў рэдакцыю свае паведамленні і фотаздымкі аб падзеях ці здарэннях. Найцікавейшыя зь іх будуць надрукаваныя ў нашым часопісе.

---


- četnost vydávání: 4 krát ročně
- místo vydávání: Praha
- číslo vydání: 33
- den vydání: 14 září 2014
- evidenční číslo přidělené Ministerstvem vnitra České republiky: MK ČR E 16919
- název vydavatele: občanské sdružení PAHONIA
- sídlo vydavatele: ul. 5 května 1043/32, Praha 4, 140 00
- identifikační číslo (IČO) vydavatele: 27038491

---

Tento Časopis byl vydán za podpory Ministerstva kultury České republiky.

Dotační program: Podpora rozšiřování a přijímání informací v jazycích národnostních menšin, rok 2014.